ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 75 (1609) | Пятніца, 22 верасня 1961 года | Цана 4 кап.

**ЧЫТАЙЦЕ НАШАЙ ГАЗЕТЫ:**

**Ў СЁННЯШНІМ НУМАРЫ**



# У НОВЫМ СЕЗОНЕ—ДА НОВЫХ ТВОРЧЫХ УЗЛЁТАЎ

## Адкрываюцца заслоны тэатраў

Праект Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза раскрывае велічныя перспектывы развіцця прафесіянальнага мастацтва, ставіць перад ім складаныя, але пачэсныя задачы. Ацэньваючы дзейнасць творчай інтэлігенцыі, М. С. Хрушчоў у артыкуле «Да новых поспехаў літаратуры і мастацтва» гаворыць, што работнікі літаратуры і мастацтва заўсёды былі і з'яўляюцца вернымі памочнікамі Камуністычнай партыі ва ўсіх яе справах. Значэнне іх творчай дзейнасці асабліва ўзрастае ў наш час, калі камуністычнае выхаванне працоўных, фармаванне новага чалавека стала адной з самых надзённых задач партыі.

Сіла савецкага мастацтва ў яго блізкасці да народа, у жыццёвай праўдзе, у развіцці рэалістычных традыцый. Праўдзівае і высокамастацкае адлюстраванне багацця і шматграннасці сацыялістычнай рэчаіснасці — вось галоўны напрамак нашага мастацтва.

Быць сёння на галоўным напрамку — гэта значыць перш за ўсё натхнённа ствараць вобразы станоўчых герояў, будаўнікоў камуністычнага грамадства, простых і прывабных у сваёй сціпласці савецкіх людзей. Гэтыя вобразы павінны займаць цэнтральнае месца і ў нашых кнігах, і на палотнах мастакоў, і ў кінафільмах, і на тэатральнай сцэне.

Адметнай рысай мінулага тэатральнага сезона і было якраз імкненне нашых тэатраў ставіць у першую чаргу сучасную п'есу. Тэатры рэспублікі паставілі такія спектаклі, як «Лявоніха на арбіце», «Твой светлы шлях», «Выгнанне блудніцы», «Заводскія хлопцы», «Акіян», «Дзяўчына з вяснушкамі», «Іркуцкая гісторыя», «Усё застаецца людзям», «Салдаты».

Аднак нельга сказаць, што гэтыя спектаклі вырашылі задачу стварэння станоўчага вобраза. Глядач патрабуе больш глыбокага раскрыцця светапогляду, жыццеадчування нашага сучасніка. Таму ў новым сезоне трэба настойліва працягваць творчыя пошукі, удасканальваць майстэрства акцёраў і рэжысуры.

Зразумела, што рэпертуар тэатраў павінен быць разнастайным. У мінулым сезоне поруч з сучаснымі спектаклямі гледачы ўбачылі «Венецыянскіх блізнят», «Утаймаванне непакорнай», «Зімнюю казку», «Авадзень», «Востраў Афрадзіты», «Анну Карэніну». Усе яны пастаўлены з высокай мерай патрабавальнасці і таму карысталіся заслужаным поспехам у гледачоў.

Аднак былі спектаклі, якія не рабілі гонару тэатрам. Маецца на ўвазе «Драпежніца» (Магілёў), «Без віны вінаватыя» (Гродна), «Пасля разлукі» (Гомель). У гэтых спектаклях рэжысура не праявіла неабходнай патрабавальнасці і густу, не стварыла моцных акцёрскіх ансамбляў. З'яўленне такіх і падобных ім спектакляў сведчыць пра тое, што ў асобных тэатральных калектывах адсутнічае прынцыповая творчая крытыка і самакрытыка.

Трэба спадзявацца, што ў новым сезоне патрабавальнасць да якасці пастановак стане неад'емнай умовай далейшай працы ўсіх тэатраў. Дасягнуць новых вышынь можна толькі пераадольваючы рамесніцтва, інертнасць і руціну.

У канцы мінулага сезона многія тэатры падрыхтавалі свае новыя спектаклі. Яны былі праверяны на гледачах, творча ўмацаваны, і новы сезон адкрыўся, напрыклад, у мінскіх тэатрах спелымі і закончанымі пастаноўкамі («Лявоніха на арбіце», «Акіян», «Авадзень»).

Тэатральныя калектывы пасля адпачынку адразу ж узялі добры тэмп у падрыхтоўцы новых спектакляў. Тэатр імя Янкі Купалы выпусціў прэм'еру «Любоў, Надзея, Вера...» П. Васілеўскага і рыхтуе новы спектакль «Гаспадар» па п'есе І. Собалева. Рускі тэатр днямі пакажа прэм'еру «Провады белых начэй» В. Пановай і адначасова працуе над пастаноўкай «Выгнання блудніцы» І. Шамякіна, якую мяркуе выпусціць да XXII з'езду КПСС.

Тэатр оперы і балета рыхтуе сучасны балет «Мара» кампазітара Я. Глебава. Тэатр юнага гледача неўзабаве выпускае спектакль па п'есе І. Козела «Канчане — суседзі мае». Тэатр імя Якуба Коласа адкрые свой сезон у Віцебску прэм'ерай «Гербавая пячатка» па п'есе А. Гутковіча і Ф. Казоўскай і да XXII з'езда партыі падрыхтуе інсцэніроўку рамана І. Шамякіна «Крыніцы».

Тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі (Брэст) пакажа дзве прэм'еры: «Фараон» па сучаснай п'есе ўкраінскага драматурга А. Каламійца і інсцэніроўку рамана Дэвідсона «У сэрцы Афрыкі».

Магілёўскі тэатр рыхтуе «Лявоніху на арбіце» А. Макаёнка, Гомельскі — «Акіян» А. Штэйна, Гродзенскі — «Яблыка разладу» А. Бірукова, Бабруйскі — «Антэй» М. Заруднага. Тэатр лялек — сучасную казку І. Маісеевай «Чароўны аловак». Не забыта і класіка. Купалаўцы ставяць «Жывы труп» Л. Талстога, Рускі тэатр імя Горкага ўключыў у свой рэпертуар «Беспасажніцу» А. Астроўскага.

Ёсць падставы меркаваць, што новы сезон пазнаёміць нашага гледача з цікавымі творамі беларускай, рускай, украінскай драматургіі, з лепшымі класічнымі п'есамі і прагрэсіўнымі п'есамі замежных аўтараў.

Будуць, магчыма, і яркія рэжысёрскія і акцёрскія работы, з'явяцца новыя імёны маладых выканаўцаў.

Гледачы чакаюць і спадзяюцца, што ў новым сезоне тэатры рэспублікі парадуюць новымі поспехамі і ўдачамі.

**НА РУБЯЖАХ СЯМІГОДКІ**



### ЧАЛАВЕК ПРЫГОЖАЙ ДУШЫ

**Ткачыха Віцебскага дыванновага камбіната Галіна Фільчанка не зрабіла ніякіх подзвігаў. Яна сціплая працаўніца. Але сяброўкі па цэху надзвычай паважаюць яе. Галіну любяць за спакойны характар, добрасумленную працу. Маладая работніца сістэматычна перавыконвае вытворчыя планы. Дываны, вытканыя яе рукамі, толькі выдатнай якасці.**

**На здымку: ткачыха Галіна Фільчанка.**

Фота С. КАПЕЛЬКІ. (БЕЛТА).

**Падзеі Факты Навіны**

**Слуцкі райком партыі і раённае аддзяленне Таварыства па пашырэнню палітычных і навуковых ведаў арганізавалі чытанне цыклу лекцый аб праекце Праграмы КПСС.**

**У раёне сотні лектараў растлумачваюць гістарычны дакумент. У прапагандзе праекта Праграмы ўдзельнічаюць больш чым 2.500 агітатараў.**

**Шырока выкарыстоўваюцца і сродкі нагляднай агітацыі. У клубах, бібліятэках, чырвоных кутках адкрываюцца выстаўкі літаратуры, фотавітрыны, прысвечаныя праекту Праграмы партыі.**

**Растлумачваючы перадз'ездаўскія дакументы, партыйныя арганізацыі раёна мабілізуюць працаўнікоў палёў на дастойную сустрэчу XXII з'езда КПСС.**

БЕЛТА.

**У Аршанскім раёне з лепшых удзельнікаў мастацкай самадзейнасці створана 16 пастаянна дзеючых агітацыйна-мастацкіх брыгад пры сельскіх клубах. Звыш 60 канцэртаў дала сёлета брыгада Аршанскага раённага Дома культуры. Трухаўская сельская агітбрыгада выступіла з канцэртамі ў калгасах «Шлях Саветаў», «Чырвоная Беларусь», «Камінтэрн», «Маяк камуны» і інш. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці Аршанскага ільнокамбіната выступілі на тэкстыльнай фабрыцы «Днепр», мясакамбінаце, у калгасах імя Куйбышава і «Ленінскі заклік».**

А. АТАМАНЮК.

**Калектыў мастацкай самадзейнасці Сіняўскага сельскага Дома культуры Клецкага раёна выступіў перад працаўнікамі калгасаў «Запаветы Ільіча», «Шлях да камунізма», «Праўда». Самадзейныя артысты выязджалі ў Нясвіжскі, Капыльскі, Ляхавіцкі і Ганцавіцкі раёны. Да абласнога агляду мастацкіх агітбрыгад, якія прысвячаецца XXII з'езду КПСС, яны падрыхтавалі новую праграму «Мы славім працу». Драматычны калектыў выступіць з вадэвілем.**

Ул. ДЗІКЕВІЧ.

**Часта наведвае калгаснікаў раёна калектыў мастацкай самадзейнасці Рэчыцкага гарадскога Дома культуры. Нядаўна калектыў агітбрыгады выступіў з канцэртамі ў вёсках Маладушша і Лясное. У яго праграме беларускія народныя песні і танцы, танцы народаў братніх рэспублік.**

І. САВІЦКІ.

# У РЭПЕРТУАРЫ— СУЧАСНАЯ МУЗЫКА

**Беларуская дзяржаўная філармонія паслязаўтра пачынае новы канцэртны сезон. Што найбольш значнае і цікавае абяцае ён аматарам музычнага мастацтва, якія новыя творы савецкіх і рускіх кампазітараў-класікаў, а таксама зарубежных аўтараў прагучаць на эстрадзе? Пра гэта наш карэспандэнт папрасіў расказаць галоўнага дырыжора сімфанічнага аркестра, заслужанага артыста рэспублікі В. Дуброўскага.**

— Выбар новага рэпертуару для выступлення нашага калектыву ў чарговым сезоне, — сказаў ён, — быў падказаны і вызначаны тым незвычайным творчым уздымам, які ахапіў у дні падрыхтоўкі да XXII з'езда КПСС усіх савецкіх людзей, незалежна ад іх прафесіі і прызвання ў жыцці. Мы стараліся ўключыць у праграмы будучых канцэртаў як мага больш твораў на сучасныя тэмы і аб гераічным мінулым Савецкай Радзімы.

Ужо ў першым канцэрце на адкрыцці сезона мінчане змогуць пазнаёміцца з двума новымі творамі беларускіх кампазітараў — «Святочнай уверцюрай» А. Багатырова і «Урачыстай уверцюрай» Я. Глебава. Гэтыя творы, напісаныя да партыйнага з'езда, раскрываюць у музычных вобразах багаты інтэлектуальны свет савецкага чалавека, яго ўпэўненыя крокі да зззяючых вяршынь камунізма. Апрача гэтага, на першым музычным вечары будуць выкананы адзінаццатая сімфонія «1905 год» Д. Шастаковіча і Першы фартэпіянны канцэрт П. Чайкоўскага (пры ўдзеле саліста — народнага артыста РСФСР П. Серабракова).

Сімфанічны аркестр прыме ўдзел у Дэкадзе тэатральнага і музычнага мастацтва, якая адбудзецца ў рэспубліцы напярэдадні XXII з'езда нашай партыі. Гэтая значная падзея ў культурным жыцці Беларусі абавязвае нас пашырыць рэпертуар аркестра перш за ўсё за лік сучаснай нацыянальнай музыкі і буйных палотнаў савецкіх кампазітараў.

Мінчане пачуюць у новай рэдакцыі сімфанічную паэму «Партызанская быль» Ул. Алоўнікава, «Сімфанічную сюіту» Г. Вагнера, «Партызанскую» сімфонію Я. Глебава, Сёмую сімфонію С. Пракоф'ева, «Патэтычную араторыю» С. Свірыдава, Пятую сімфонію Д. Шастаковіча.

У новым сезоне будзе выканан рад сімфанічных твораў, якія раней наогул не гучалі ў канцэртных залах Мінска. Гэта — творы зарубежных аўтараў — Гайдна, Брукнера, Баха, Р. Штрауса і кампазітараў братніх савецкіх рэспублік — Украіны, Арменіі, Латвіі.

Разам з сімфанічным аркестрам у канцэртах выступяць вядомыя салісты-інструменталісты Савецкага Саюза і зарубежных краін. Так, на гастролі ў Мінск чакаецца прыезд піяністаў Ю. Брушкова, Т. Гусевай, піяніста з Бразіліі Эстрэла, скрыпача В. Клімава, югаслаўскага дырыжора С. Хубат і іншых музыкантаў.

В. Дуброўскі расказаў таксама пра тое, што па вопыту мінулага года Беларуская філармонія выпускае ў сёлетнім сезоне абанемент з сямі канцэртаў, у якіх будуць выкананы дзевяць сімфоній Бетховена і яго пяць канцэртаў для фартэпіяна з аркестрам. Вечары бетховенскай музыкі будуць праходзіць у Доме афіцэраў па панядзелках адзін раз у месяц. Адкрыецца таксама агульнагарадскі музычны лекторый.

У заключэнне гутаркі дырыжор сказаў:

— Нядаўна нашаму аркестру прысвоена званне «Дзяржаўны сімфанічны аркестр Беларускай ССР». Гэта абавязвае музычны калектыў працаваць яшчэ лепш, старанна рыхтаваць кожны нумар праграмы.

# ПЕРАД АДКАЗНАЙ СУСТРЭЧАЙ

**Гутарка з мастацкім кіраўніком Беларускага цыркавога калектыву А. Шагам**

— Сёлетні цыркавы сезон у сталіцы Беларусі,—сказаў А. Шаг,— наш калектыў пачынае ў гістарычныя дні ўсенароднай падрыхтоўкі да XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і XXV з'езда Кампартыі Беларусі. Гэтым знамянальным падзеям у жыцці краіны і рэспублікі мы прысвяцілі новую вялікую праграму «Бывайце здаровы», над якой напружана, з сапраўдным творчым натхненнем працавалі ўсе артысты Беларускага цырка. Гэтую праграму наш калектыў рыхтаваў у творчай садружнасці з Цэнтральнай студыяй цыркавога мастацтва. Аўтары сцэнарыя Д. Вурас, А. Шаг, рэжысёр А. Галь, мастак-афармніцель Ус. Сахноўскі, кампазітары Б. Райскі, А. Норчанка.

Праграма пачынаецца з парада-пралога, у якім прымаюць удзел усе артысты.

У першым аддзяленні 14 разнастайных арыгінальных нумароў. Тут выступаюць музычныя эксцэнтрыкі артысты Атліванік, паказваецца палёт пад купалам цырка пад кіраўніцтвам А. Вязава і іншыя нумары.

Другое аддзяленне праграмы складае вялікі камедыйны атракцыён «Ілюзійная мініяцюра». У гэтым атракцыёне сродкамі цыркавога мастацтва ўслаўляецца веліч і грандыёзныя дасягненні нашай краіны, працоўныя подзвігі і духоўная прыгажосць будаўнікоў новага жыцця, а таксама бязлітасна высмейваюцца мяшчанства, бюракратызм, дармаедства.

Заканчваецца прадстаўленне эпілогам, які пераходзіць у апафеоз.

У Беларускім цыркавым калектыве асноўнае месца займае творчая моладзь — выпускнікі Цэнтральнай студыі цыркавога мастацтва. Гэта комік-парадыст Валерый Колабаў, музычная пяцёрка пад кіраўніцтвам Фёдара Аляксеева, вышэйшая школа верхавой язды —артысты Гертруда і Святаслаў Дэмашы, жанглёры пад кіраўніцтвам Мікалая Польдзі і інш.

Мы працуем і над стварэннем другой новай праграмы. Упершыню сярод цыркавых калектываў краіны наш цырк зможа адначасова паказваць дзве зусім розныя цыркавыя праграмы.

# ШЧАСЦЕ МАСТАКА

Незвычайным шчасцем поўніцца сэрца народнага артыста СССР Барыса Віктаравіча Платонава ў сёлетнюю залатую восень. Ён выбраны дэлегатам XXII гістарычнага з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Разам з лепшымі сынамі Ленінскай партыі ён будзе галасаваць за новую Праграму і новы Статут КПСС.

Усім сваім слаўным жыццём таленавітага майстра беларускай сцэны, сапраўднага мастака-грамадзяніна заслужыў Б. Платонаў такое давер'е.

Народны артыст заўсёды знаходзіцца на баявой партыйнай пазіцыі ў сцэнічным мастацтве,— і не толькі калі яго героі — нашы сучаснікі, але і ў вобразах класічнага рэпертуару, хоць яго мары і душэўнае імкненне з асаблівай глыбінёй праяўляюцца ў спектаклях, у якіх дзейнічаюць савецкія людзі.

З'яўляючыся акцёрам шырокага дыяпазону, выступаючы ў трагедыі, драме, камедыі і вадэвілі, Б. Платонаў ніколі не губляе адчування «жыцця чалавечага духу» ў вобразе. У лепшых ролях Б. Платонава, якія асабліва запомніліся гледачам, з'яднаны паэтычная прастата з сацыяльнай і жыццёвай праўдай. Палымяны прыхільнік рэалістычнай праўды, вораг фармалістычных выкрутасаў, эстэцкага крыўляння і бяскрылай вонкавай акцёрскай тэхнікі, Б. Платонаў ніколі не сыходзіць на вузкую сцежку рамесніцкай, дробнай «праўдачкі».

Артыст валодае найбагацейшай акцёрскай палітрай. Ён тонка адчувае музычную гармонію спектакля, яго рытміку, пластыку і графіку мізансцэн. Галоўнымі мастацкімі сродкамі Платонава заўсёды з'яўляюцца ўсхваляваная думка, жывая гарачая эмоцыя, паглыблены псіхалагізм. Творчы прынцып артыста — «максімум унутранага, мінімум вонкавага».

Як палымяны партыйны мастак Платонаў ніколі не бывае інертным, абыякавым на сцэне. Ён не дазваляе сабе раскошы спачывання на лаўрах раней здабытай славы. У кожным новым творы артыст шукае шляхі найбольш дасканалага яго сцэнічнага ўвасаблення.

Вельмі складаная праблема з'яднання таленту выдатнага артыста з усім ансамблем спектакля вырашаецца майстрам тактоўна, з уласцівай яму сціпласцю і мастацкай чуласцю. Класічны прыклад гэтаму — выступленне Б. Платонава ў галоўнай ролі спектакля «Канстанцін Заслонаў» Народнага тэатра Аршанскага клуба чыгуначнікаў. Іменна, дзякуючы гэтым якасцям артыста, ансамблевасць самадзейнай пастаноўкі не толькі не пагоршылася ў выніку выступлення ў спектаклі Платонава, а, наадварот, яшчэ больш умацавалася. Прафесіянальны артыст не імкнуўся прыладзіцца да аматараў, а, запаліўшы ў іх сэрцах агонь творчага натхнення, дапамог узняць мастацкую культуру самадзейнага спектакля.

Саліруючы ў спектаклях «Трэцяя патэтычная», «Крамлёўскія куранты», «Канстанцін Заслонаў», «Ліса і вінаград», Б. Платонаў нідзе не спрабуе сваю яркую творчую індывідуальнасць супрацьпаставіць усяму «сімфанічнаму аркестру» спектакля.

Вядома, што майстэрства пераўвасаблення з'яўляецца адной з галоўных адзнак выдатнага таленту.

Пераўвасабляцца, на думку А. Папова, гэта ўмець перажываць ролю штодзённа, на кожным спектаклі адчуваць сённяшняга гледача, ацэньваць «прапануемыя акалічнасці» п'есы з пазіцыі пражытага дня; г. зн. творча імправізаваць ва ўмовах самай дакладнай і строга ўстаноўленай партытуры спектакля.

Такія цэнтральныя вобразы ў рэпертуары Б. Платонава, як Ленін, Заслонаў, Эзоп, не старэюць, не трацяць глыбіні думкі і прывабнасці. Яны няспынна ўзбагачаюцца іменна дзякуючы выключнаму майстэрству пераўвасаблення артыста, якое з'яднана з яго партыйнай страснасцю.

Б. Платонаў заўсёды адчувае біццё пульсу краіны, пафас яе творчай працы. І высокае пачуццё адказнасці перад народам ніколі не пакідае яго. Кожны новы выхад у спектаклі, у якім артыст нават даўно ўдзельнічае, ператвараецца для яго ў экзамен перад гледачом. Нястомна ўзбагачае майстар сцэнічныя вобразы новымі рысамі, нюансамі, акцэнтамі.

Б. Платонаў дамагаецца высокай інтэлектуальнасці герояў-сучаснікаў, іх акрылёнасці высакароднымі ідэаламі партыі.

Ёсць такая чалавечая рыса ў артыста, якая вельмі станоўча адбіваецца на яго мастацкай творчасці, — гэта незвычайная сціпласць, адсутнасць штучнай, паказной тэатральнасці, што дапамагае яму паглыбляцца ва ўнутраны свет героя, у яго драматычныя перажыванні, абараніцца ад захаплення вонкава выйгрышнымі сцэнічнымі сітуацыямі.

Параўнальна нядаўна здзейснілася вялікая мара артыста — стварыць вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна. Выступленне Б. Платонава ў спектаклі «Трэцяя патэтычная» паказала, што ён паставіўся да здзяйснення сваёй мары з пачуццём выключнай адказнасці.

Ленін у выкананні Б. Платонава — найчалавечнейшы чалавек, геніяльны і просты, мудры і суровы, акрылены высакароднымі ідэаламі камунізма і шчодрай любоўю да народа. Артыст не імкнецца да дакладнага перайманця вонкавых рыс Леніна — яго жэстаў, мімікі, гаворкі, хады. Творчая думка артыста, яго галоўны клопат перш-наперш накіраваны на перадачу выключнай інтэлектуальнасці заснавальніка Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы, на раскрыццё яго філасофіі, камуністычных ідэй. Жывыя, гарачыя эмоцыі Ільіча, яго незвычайная прывабнасць успрымаюцца розумам і сэрцам ва ўсёй іх выключнай шчырасці.

З такой жа стрыманасцю і скупасцю вонкавага малюнка ролі перададзена і ленінская рэвалюцыйная рамантыка, яго натхнёная, крылатая фантазія, дасканалае ўмельства глыбока зазірнуць у светлую будучыню Радзімы.

Калісьці Радэн на запытанне, якім чынам ён дасягае дасканаласці майстэрства, адказаў, што бярэ глыбу мармуру і «адсякае ад яе ўсё лішняе». Умельства «адсякаць усё лішняе» — адменная ўласцівасць майстэрства Б. Платонава.

У творчай біяграфіі Б. Платонава велізарнае значэнне набыў вобраз Канстанціна Заслонава. Лепка гэтага характару філігранная і дасканалая. Заслонаў — жывы герой, з гарачымі эмоцыямі і неспакойнымі думкамі. Дзякуючы арганічнай злітнасці драматургіі А. Маўзона, рэжысуры К. Саннікава і акцёрскага мастацтва Б. Платонава ён стаў класічным на беларускай сцэне. І не будзе крыўдным для таленавітых аўтара п'есы і рэжысёра, калі мы скажам, што ў першую чаргу Б. Платонаў — віноўнік такой шырокай папулярнасці іх сцэнічнага твора ў савецкіх гледачоў.

Платонаўскі Заслонаў на ўсё жыццё застанецца ў сэрцы і свядомасці кожнага, хто хоць раз бачыў яго на сцэне. Сціплая акцёрская манера (адсечана ўсё лішняе) з'яднана ў вобразе са строгай прынцыповасцю і страснасцю партыйнага мастака.

За вонкавай стрыманасцю канспіратара-падпольшчыка, за яго вымушанай маскіроўкай мы ўвесь час адчуваем гарачае сэрца савецкага патрыёта.

Артыст нідзе не збіваецца на танныя сентыменты і ніколі не «ірве страсць на кавалкі», нават у самых вострых сітуацыях, у якія трапляе яго герой. Мы не адчуваем душэўнага адзіноцтва Заслонава — Платонава, бо ён заўсёды сагрэты цёплай любоўю да Радзімы, непахіснай верай у вялікую справу, якой аддае сваё жыццё. Кожны рух, жэст, выраз твару і вачэй артыста нібы напоўнены сурова ўрачыстай бетховенскай музыкай, бездакорным пачуццём рытму, пластыкі і графікі мізансцэн.

Пачуццё мастака-камуніста выяўляе Платонаў і ў вобразе Эзопа.

Перад намі жахлівая постаць знявечанага, з выгляду страшэнна непрыгожага чалавека. Але якая выключная вастрыня думкі ў яго, якое гнеўнае, палымянае слова ў спалучэнні з незвычайнай душэўнай прывабнасцю. У платонаўскім тлумачэнні мы выразна адчуваем тэму вобраза, думку, што не целам прыгожы чалавек, а эмоцыямі, шчырай любоўю да людзей.

Ён вельмі сучасны сваімі думкамі, гэты старажытны мудры філосаф, а яго крытыка трапна б'е ў чорнае сэрца імперыялістычных вылюдкаў.

У вобразе Эзопа асабліва глыбока прыкметна вялікая сіла трагічнага тэмпераменту Б. Платонава. Толькі артыст выключнай прынцыповасці і найвышэйшага класа майстэрства здольны на такі творчы подзвіг, які Платонаў здзейсніў у ролі Эзопа.

Б. Платонава мы любім не толькі як творцу станоўчых вобразаў. З такой жа партыйнай страснасцю, з якой ён сцвярджае цудоўнае ў нашым жыцці, артыст асуджае ў сцэнічных вобразах агідныя рысы ў псіхалогіі людзей. Ён не захапляецца лёгкадумным смехам, а з пачуццём гнеўнага сатырыка выкрывае адмоўныя заганныя рысы героя.

Са знішчальнай сатырычнай вастрынёй раскрывае Б. Платонаў амаральнае, антыпартыйнае аблічча Зёлкіна («Хто смяецца апошнім»), агідны твар фашысцкага паслугача, здрадніка Мігуцкага («З народам»), паразітычны характар Лявона («Лявоніха на арбіце»).

І ў гэтых вобразах артыст застаецца верным свайму эстэтычнаму густу, рэалістычнай творчай манеры, і тут ён паказаў выдатнае майстэрства пераўвасаблення.

Баявую партыйную пазіцыю займае Платонаў і ў вобразах рускай і беларускай класікі.

Яго Нязнамаў («Без віны вінаватыя»)—не пакрыўджаны лёсам сірата, а шчыры сэрцам юнак, які гнеўна асуджае гнілую мараль буржуазнага грамадства, мяшчанства і сябелюбства.

У вобразе Пятра («Апошнія») Б. Платонаў зацікавіўся не толькі душэўнай траўмай героя, яго маральным калецтвам. Артыст акцэнтаваў у вобразе Пятра яго душэўны пратэст супраць сацыяльнай несправядлівасці, дзікунскага свавольства і жорсткасці паліцэйска-бюракратычнага царскага рэжыму.

З такой жа прынцыповасцю і страснасцю паглыбляецца артыст у псіхалагічныя рысы нікчэмнага і фанабэрлівага, пыхлівага і прыдуркаватага пана Адольфа Быкоўскага («Паўлінка»).

Надзьмуты твар, недарэчная камізэлька, старамодны парасон, смешная шляхецкая шапка, вялізныя галошы, дзівакаватая манера танца — гэта не проста трапныя мастацкія дэталі вонкавага партрэта камедыйнага героя, а арганічныя элементы яго характару. Яны дзейсна дапамагаюць сатырычнаму выкрыццю і асмяянню фанабэрлівага шляхцюка. Адольф Быкоўскі Б. Платонава— выразны індывідуальны сатырычны партрэт і разам з тым сацыяльны тып, характар хцівага юрліўца.

Незвычайна шырокі творчы дыяпазон артыста — сведчанне шматграннасці яго таленту, сталасці камуністычнага светапогляду, мастацкай культуры. Створаныя Б. Платонавым характары ўвайшлі ў залаты фонд сацыялістычнага мастацтва Савецкай Беларусі і ўсёй савецкай культуры.

Верны сын ленінскай партыі, мастацкі кіраўнік Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і вядучы артыст гэтага тэатра, Барыс Платонаў у сваёй творчай дзейнасці заўсёды звяртаецца да невычэрпных крыніц народнага мастацтва, да неўміручых марксісцка-ленінскіх ідэй.

М. МОДЭЛЬ.

# У КНІГУ ГОНАРУ

**Днямі калегія Міністэрства культуры БССР і прэзідыум БРК прафсаюза работнікаў культуры пастанавілі занесці ў Кнігу гонару лепшых кінамеханікаў рэспублікі, якія ў спаборніцтве за дастойную сустрэчу XXII з'езда КПСС датэрмінова выканалі гадавыя планы кінаабслугоўвання насельніцтва.**

У Кнігу гонару занесены: кінамеханікі В. Ігнаценка, А. Мацвеенка, А. Гарбузоў, М. Адамаў, В. Панфіловіч, І. Ягораў і матарыст Б. Мошчанка (Магілёўскі раён), кінамеханікі Я. Панцялееў, Ул. Леўчанка, М. Патапенка (Касцюковіцкі раён), В. Палянскі (Гарадоцкі раён), А. Ільін (Мсціслаўскі раён), В. Смаргуноў (Горацкі раён) і А. Савельеў (Шклоўскі раён).

# ПАТРЭБНА ДАПАМОГА, А НЕ ЗАМІЛАВАННЕ

**Самадзейнасць? Так. Але НА ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫМ УЗРОЎНІ**

В АУМОВАХ пераходу ад сацыялізма да камунізма, як адзначаецца ў праекце Праграмы КПСС, атрымаюць самае шырокае развіццё ўсе формы народнай творчасці. Рост сеткі культурна-асветных устаноў дасць яшчэ большую магчымасць нашаму народу задавальняць свае культурныя патрэбы, займацца вялікай і любімай справай — мастацтвам.

Самадзейная харавая капэла, народны сімфанічны аркестр, ансамбль песні і танца — у нашы дні ўжо не навіна. Усё большую колькасць аматараў тэатральнага мастацтва згуртоўваюць вакол сябе народныя тэатры. Ліцейшчык Віктар Абалонкін, майстар цэха Рыгор Яфімаў, калгасніца Яўгенія Бокшыц — артысты народнага тэатра. Як гэта сугучна часу! Вось яно, тое новае, што нарадзіла наша эпоха, што глыбокімі карэннямі ўвайшло ў наша жыццё.

Шырокае развіццё атрымала ў нас у рэспубліцы тэатральная самадзейнасць. У абласцях, у раённых цэнтрах, калгасах і саўгасах ёсць творча цікавыя калектывы, якім пад сілу паставіць складаны многаактовы спектакль. У рэспубліцы цяпер 19 народных тэатраў. Як і прафесіянальныя калектывы яны з'яўляюцца памочнікамі партыі ў справе ідэалагічнага выхавання мас.

Да XXII з'езда роднай Камуністычнай партыі народныя тэатры рыхтуюць спектаклі на надзённыя, хвалюючыя тэмы.

Слонімскі народны тэатр (рэжысёр М. Фрыдман) паставіў яркі сучасны спектакль «Выгнанне блудніцы». Працоўныя Слоніма палюбілі свой самадзейны тэатр і кожную яго творчую ўдачу або няўдачу перажываюць як нешта асабістае. Спектаклі слонімцаў, як правіла, праходзяць пры перапоўненай зале. Гледачы актыўна рэагуюць на ўсё, што адбываецца на сцэнічных падмостках. «Гэта наш тэатр, нашы акцёры», — з гонарам гавораць яны.

Цікавы спектакль падрыхтавалі артысты Народнага тэатра Магілёўскага клуба чыгуначнікаў (рэжысёр Ул. Бараноўскі). П'еса В. Лаўрэнцьева «Дзеля сваіх блізкіх» прыцягнула да сябе ўвагу самадзейных артыстаў перш за ўсё тым, што яна востра ўзнімае многія пытанні жыцця калгаснай вёскі. Рэжысёр зразумеў асноўную ідэю п'есы. У спектаклі шмат цікавых акцёрскіх работ.

Народны тэатр Баранавіцкага гарадскога Дома культуры (рэжысёр М. Счансновіч) паставіў складаную п'есу М. Пагодзіна «Кветкі жывыя». На жаль, намаганні калектыву стварыць хвалюючы спектакль пакуль што не ўвянчаліся поспехам.

П'есы А. Макаёнка «Лявоніха на арбіце» і «Выбачайце, калі ласка!» спадабаліся самадзейным выканаўцам. Яны з поспехам прайшлі ў Мазырскім, Ашмянскім, Рэчыцкім народных тэатрах і ў самадзейным тэатры Мінскага аўтазавода. Спектаклем «Выбачайце, калі ласка!» пачаў сваё творчае жыццё самы малады Народны тэатр Браслаўскага раённага Дома культуры.

Спектаклямі на сучасную тэму сустрэнуць XXII з'езд нашай партыі Слуцкі, Полацкі і Віцебскі народныя тэатры. Рыхтуюць новыя пастаноўкі Пастаўскі народны тэатр, тэатр Аршанскага Палаца культуры чыгуначнікаў, Народны тэатр Мінскага аўтазавода і інш. Рэспубліканскі агляд народных тэатраў (1960 г.) ярка паказаў растучае майстэрства самадзейных артыстаў, рэжысёраў, мастакоў.

Але побач з поспехамі, якіх дасягнулі народныя тэатры, у іх дзейнасці ёсць і істотныя недахопы. Дыскусія, разгорнутая на старонках газеты «Літаратура і мастацтва», з'явілася стымулам для новага ўздыму самадзейнага тэатра.

ВАЖНАЕ ЗНАЧЭННЕ мае праблема рэжысуры. Як вядома, рэжысёр народнага тэатра — першы тлумачальнік п'есы, арганізатар спектакля, педагог, які павінен умела накіроўваць творчую фантазію самадзейнага акцёра. Не ўсе народныя тэатры маюць кіраўнікоў, якія ў поўнай меры адпавядаюць гэтым неабходным патрабаванням. Там, дзе рэжысёр удумліва распрацоўвае ідэйна-тэматычны і пастановачны план спектакля, дзе ён знаходзіць агульную творчую мову з выканаўцамі, спектаклі атрымліваюцца цікавымі, паўнацэннымі.

М. Фрыдман (Слонім), М. Счансновіч (Баранавічы), В. Бараноўскі (Магілёў), Ф. Міхайлаў (Барысаў), І. Сакольскі (Пінск) маюць вялікі вопыт работы ў мастацкай самадзейнасці. Яны ўмела накіроўваюць работу народных тэатраў. Але, на жаль, яшчэ не ўсе калектывы маюць такіх таленавітых і вопытных кіраўнікоў.

Доўгі час Мазырскі народны тэатр працаваў наогул без рэжысёра. Рэжысёр Д. Селіванаў многа дакляраваў і мала рабіў. У выніку ў рэпертуары тэатра не было цікавых спектакляў. Таму мазырскі калектыў, не маючы добрага рэжысёра, не прыняў удзелу ў аглядзе народных тэатраў у Мінску. Цяпер тэатр узначальвае рэжысёр С. Палтарацкі, былы акцёр, які ведае і любіць сваю справу. І трэба спадзявацца, што Мазырскі тэатр зойме належнае месца сярод народных тэатраў рэспублікі.

Да гэтага часу няма рэжысёра ў Народным тэатры Аршанскага клуба чыгуначнікаў. Праўда, адзін са старэйшых удзельнікаў калектыву І. Салтановіч і група вядучых самадзейных акцёраў метадамі калектыўнай рэжысуры аднавілі спектакль «Канстанцін Заслонаў». Сумесна з калектывам яны цяпер заканчваюць работу над класічнай п'есай «Без віны вінаватыя» А. Астроўскага.

Нашы народныя тэатры маюць патрэбу ў вопытнай рэжысуры. Часта самі рэжысёры яшчэ дрэнна разумеюць, што такое ідэя п'есы і як яе можна выявіць у спектаклі, не ўлічваюць жанравых асаблівасцей п'ес, не ўмеюць дакладна вызначыць «скразное дзеянне» і «звышзадачу» спектакля, падыходзяць да працы над п'есай механічна, лічаць, што галоўнае — гэта вывучыць тэкст і зрабіць так званую разводку артыстаў. Нядаўна мы сутыкнуліся з такой з'явай ў Слуцкім народным тэатры. Тэатр паставіў спектакль па п'есе Э. Ранета «Блудны сын». Рэжысёр К. Лужанская слаба прааналізавала змест п'есы, не падрыхтавалася, як належыць, да рэпетыцыі. У выніку — п'еса Э. Ранета была вырашана як бытавая меладрама. Няўдалае вызначэнне жанра п'есы пацягнула за сабой і скажэнне ідэйнага гучання спектакля. Сацыяльныя матывы, якія прывялі Марта Туйска на шлях здрадніцтва радзіме, засталіся па-за ўвагай рэжысёра. Так другараднае, зацямніўшы галоўнае, зрабіла спектакль памылковым.

У Слуцкім народным тэатры шмат цікавых, сапраўды таленавітых выканаўцаў. Але рэжысёр пакуль яшчэ не здолела аб'яднаць калектыў, накіраваць яго творчы энтузіязм на вырашэнне вялікіх задач.

Ёсць у нашых народных калектывах рэжысёры-энтузіясты, якія не маюць спецыяльнай адукацыі або вопыту работы ў прафесіянальным тэатры. Гэта людзі, якія прыйшлі ў мастацтва з самадзейнасці і сваёй самаадданай працай прыносяць народным тэатрам вялікую карысць. Але ім вельмі патрэбна штодзённая, уважлівая дапамога. Да такіх рэжысёраў адносяцца Р. Сарочкіна (Багушэўскі народны тэатр), М. Ароцкая (Пастаўскі народны тэатр) і інш.

НАРОДНЫЯ ТЭАТРЫ рэспублікі цяпер умацаваліся, многія з іх вырашаюць складаныя творчыя задачы і таму, зразумела, да іх работы трэба ставіцца сур'ёзна, з высокімі патрабаваннямі. Ацэнка іх дзейнасці з пазіцый вялікага мастацтва толькі павысіць адказнасць выканаўцаў і рэжысёраў. Празмерна апякунскае, спагадлівае стаўленне да работы народных тэатраў можа затармазіць іх развіццё. Аб рабоце народных тэатраў можна і трэба гаварыць, строга крытыкуючы іх недахопы і па заслугах ацэньваючы поспехі.

Вялікую дапамогу ў рабоце народных тэатраў аказваюць творчыя работнікі, якія падыходзяць да гэтага пытання іменна з пазіцый высокай патрабавальнасці. Чым, як не празмерным захвальваннем можна вытлумачыць няўдачу спектакля драматычнага калектыву Палаца культуры прафсаюзаў «Каму ўсміхаюцца зоркі»? Паказаўшы гэтую сваю пастаноўку на аглядзе народных тэатраў, калектыў і яго кіраўнік К. Кулакоў былі расчараваны, калі пачулі ў свой адрас суровую, але справядлівую крытыку. Іх здзіўленне было выклікана не крытычнымі заўвагамі журы, а тым, што яны ўпершыню аб гэтым пачулі. Камісія, якая раней прымала спектакль, расхваліла недасканалы твор і дэзарыентавала калектыў і яго кіраўніка. Калі б творчыя работнікі, якія прымалі спектакль, былі прынцыпова справядлівымі, патрабавальнымі, драматычны калектыў Палаца культуры прафсаюзаў прыйшоў бы да агляду з куды большымі творчымі дасягненнямі.

Гэта ж датычыць цэлага раду іншых спектакляў народных тэатраў і самадзейных калектываў. Празмернае замілаванне імі толькі шкодзіць творчаму росту аматараў сцэны. Аб гэтым добра памятаюць тыя творчыя работнікі, якія дзейсна дапамагаюць рабоце народных тэатраў. У першую чаргу тут варта адзначыць народных артыстаў СССР Б. Платонава, П. Малчанава, Г. Глебава, народных артыстаў БССР В. Галіну, В. Пола, І. Ждановіч, К. Саннікава, Ц. Сяргейчыка і інш.

Б. Платонаў з уласцівай яму сціпласцю і творчай сумленнасцю паставіўся да работы над спектаклем «Канстанцін Заслонаў», які ставіць Народны тэатр клуба чыгуначнікаў імя С. М. Кірава (станцыя Орша). Яго паспяховы ўдзел у спектаклі аршанцаў наглядна паказаў, якая непарыўная сувязь існуе паміж прафесіянальным мастацтвам Беларусі і народнымі тэатрамі. Многа дапамагае Барысаўскаму народнаму тэатру В. Галіна. Вялікую карысць прынеслі В. Пола і Г. Глебаў, прыняўшы ўдзел у спектаклі «Паўлінка» ў Ашмянскім народным тэатры. Ц. Сяргейчык (Тэатр імя Я. Коласа) прымае плённы ўдзел у рабоце Багушэўскага і Полацкага народных тэатраў. Ён дапамагае іх рэжысёрам, займаецца і з самадзейнымі акцёрамі. І ўсё ж, на наш погляд, дапамога ўсім народным тэатрам яшчэ вельмі нязначная, таму што яна не сістэматычная.

Крытыка ў адрас Рэспубліканскага Дома народнай творчасці ўдзельнікаў дыскусіі аб народных тэатрах была правільнай. Кансультанты РДНТ хоць часта бываюць у народных тэатрах, (без нашага ўдзелу не выпускаецца ніводзін спектакль), але прыязджаюць яны не больш чым на два-тры дні.

У мэтах больш плённай дапамогі народным тэатрам мы лічым неабходным прымацаваць да кожнага тэатра пастаяннага рэжысёра-кансультанта. Яго абавязак не толькі знаходзіць недахопы, канстатаваць іх, а практычна дапамагаць рабоце над спектаклем.

Кожны прафесіянальны тэатр знойдзе ў сваім калектыве рэжысёра або акцёра, які паставіцца да гэтага даручэння з вялікай адказнасцю. А яшчэ больш цеснае супрацоўніцтва і ўзаемасувязь паміж прафесіянальным і самадзейным мастацтвам з'явіцца ў нас, калі рэжысёры-прафесіяналы паставяць у народных тэатрах рэспублікі хоць бы па аднаму спектаклю ў год.

У сваім артыкуле, змешчаным у газеце ў сувязі з дыскусіяй, дырэктар Тэатра юнага гледача Ул. Стэльмах ужо ў каторы раз паведамляе, што галоўны рэжысёр Тэатра юнага гледача Л. Мазалеўская абяцала паставіць спектакль у адным з народных тэатраў. Але пакуль што гэта засталося толькі абяцаннем. Народным тэатрам патрэбна дапамога і ў творчай вучобе артыстаў. Без засваення асноў майстэрства акцёра не можа быць і паўнацэннага спектакля. На гэтую тэму многа гаварылі, стварылі спецыяльную вучэбную праграму, але высветлілася, што не ўсе рэжысёры могуць самі праводзіць творчую вучобу сярод сваіх артыстаў. Для гэтага ў іх недастаткова тэарэтычных ведаў і педагагічнага майстэрства. У маі мінулага года Рэспубліканскі Дом народнай творчасці склікаў семінар рэжысёраў народных тэатраў, уключыўшы ў праграму і гэтае пытанне. Відавочна, што аднаго семінара недастаткова. У бліжэйшы час будзе арганізаваны ў Мінску другі семінар рэжысёраў народных тэатраў з наступнай праграмай: ідэйна-тэматычны і пастановачны план спектакля; вучэбна-выхаваўчая работа ў калектыве народнага тэатра.

Неабходна стварыць пры Рэспубліканскім Доме народнай творчасці і Беларускім тэатральным таварыстве рэжысёрскую групу, якая будзе сістэматычна дапамагаць рэжысёрам народнага тэатра. Да кожнага народнага тэатра трэба прымацаваць кансультанта. У тым калектыве, дзе самадзейны рэжысёр не здолее праводзіць творчую вучобу з акцёрамі, гэты абавязак можа выканаць прымацаваны да тэатра рэжысёр-прафесіянал.

Пажадана, каб Міністэрства культуры БССР, з мэтай стварэння арыгінальнага рэпертуару, дазволіла некаторым народным тэатрам заключаць дагаворы з аўтарамі на напісанне новых п'ес. Міністэрства таксама павінна ўзяць на пастаяннае лімітнае забеспячэнне ўсе народныя тэатры рэспублікі. Прафесіянальныя тэатры могуць перадаць народным тэатрам светлавую апаратуру, касцюмы, рэквізіт, бутафорыю, цюль і інш.

Рэспубліканскі савет прафсаюзаў мае магчымасць вырашыць пытанне аб тым, каб вызваляць артыстаў народных тэатраў ад начной і вячэрняй змен і даваць ім адпачынак у адзін час, як гэта ўжо зроблена ў Народным тэатры Мінскага аўтазавода.

У канцы 1961 года трэба правесці другі семінар загадчыкаў пастановачнай часткі народных тэатраў і мастакоў.

Вельмі карысна было б у канцы тэатральнага сезона склікаць рэспубліканскі з'езд артыстаў народных тэатраў, каб абагуліць творчы вопыт гэтых тэатраў.

**Ул. ГАРАЧУН,**
намеснік дырэктара Рэспубліканскага Дома народнай творчасці,
**С. ГУРЫЧ,**
рэжысёр-метадыст.

**Наступным слова ў абмеркаванні праблем развіцця тэатральнай самадзейнасці мае старшы інспектар Упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР М. Колас.**

# ВОБРАЗЫ НАШЫХ СУЧАСНІКАЎ

Каля 300 жывапісных палотнаў, графічных лістоў, работ прыкладнога мастацтва і скульптуры экспануецца на выстаўцы самадзейных мастакоў Віцебшчыны, якая адкрылася гэтымі днямі ў абласным цэнтры.

Сучаснасць, героіка мірнай працы, выхаванне новага чалавека — вось якім тэмам прысвечана пераважная частка твораў.

Са шматлікімі пейзажамі і эцюдамі ўпершыню выступае на выстаўцы аршанскі слесар Юрый Крыкаў. Найбольшай сардэчнасці і выразнасці мастак дасягае ў палатне «У пачатку лістапада».

Мяккі лірызм адчуваецца ў карцінах «Вечар у палацы культуры», «Асенні дзень», «Вёска Максімаўская», «Восень» і ў многіх эцюдах. Некаторыя з іх гучаць, як добрая песня.

Менш удаліся Ю. Крыкаву пейзажы «Сакавік» і «На Учме». У іх пераважае каляровая ўмоўнасць, дэкаратыўнасць. Хацелася б пажадаць таленавітаму жывапісцу, каб у яго пейзажах больш актыўна адчуваўся герой нашых будняў, пераўтваральнік прыроды — савецкі чалавек.

З Мікалаем Гвоздзікавым-бацькам рабочым домабудаўнічага камбіната, наведвальнікі выстаўкі знаёмы даўно. Але цяпер у экспазіцыі аказаліся два Мікалаі Гвоздзікавы — бацька і сын. Бацька выступае з партрэтамі перадавых людзей прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Выдзяляецца кампазіцыйны партрэт ударніка камуністычнай працы токара І. Казакова. Аўтар стварыў праўдзівы вобраз нашага сучасніка — разумнага, вопытнага гаспадара вытворчасці. Добрыя ў Гвоздзікава-старэйшага і акварэльныя эцюды. Яны светлыя і празрыстыя. Ад бацькі, нам здаецца, не адстае і сын.

Здольнымі жывапісцамі паказалі сябе студэнты педінстытута А. Алонцаў, В. Гарнашэвіч, В. Кісялёў. У А. Алонцава своеасаблівая манера пісьма. Яму ўласціва свежая, каларытная палітра. В. Гарнашэвічу і В. Кісялёву пад сілу тэхніка акварэльнага і маслянага жывапісу. Асабліва добрыя ў Гарнашэвіча сцэнкі, прысвечаныя дзецям. Мастак любіць дзяцей і разумее іх свет. Тэмпераментна і сонечна напісаны ім эцюды «У спякотны дзень», «Сонца», «Веснавая крыніца», «Красная плошча», «Студэнты», «Убіраюць лён».

Вобразу сучасніка прысвяцілі свае работы многія самадзейныя майстры. Рабочы скурзавода А. Скраблоў, ветэрынарны ўрач В. Дзісцерла, рабочы шаўкаткацкай фабрыкі І. Баўтута, настаўнік Обальскай школы І. Званкоў напісалі партрэты перадавых людзей Віцебшчыны.

З кампазіцыйных палотнаў вызначаецца прастатой і задушэўнасцю «Дэкрэт аб міры» А. Сяліцкага, настаўніка з Докшыцкага раёна. Карціна перадае атмасферу жыцця краіны першых паслярэвалюцыйных год, але яна сугучна нашаму часу.

У асобных эцюдах і нацюрмортах работніка абласной бібліятэкі Я. Ушалы і электраманцёра абутковай фабрыкі В. Лайко прыкметны рост жывапіснага майстэрства. Гэта асабліва відаць у нацюрмортах Я. Ушалы «Грыбы» і «Яблыкі».

Любоўю да цудоўнай прыгажосці роднага краю дыхаюць многія эцюды афіцэра запасу П. Баранава. Спалучаючы тэхніку акварэлі з каляровымі алоўкамі, ён стварыў цэлую серыю гарадскіх пейзажаў.

У графіцы паспяхова працуе студэнт педінстытута Н. Азаронак. Ім выдатна выкананы лінагравюры «Даяркі», «Будаўніцтва тэатра», «Парк чыгуначнікаў» і інш.

Мастак-афарміцель (Полацкі нафтабуд) В.Іваноў валодае добрай тэхнікай работы тушшу. Запамінаюцца яго многія індустрыяльныя замалёўкі, а таксама прывабны партрэт медсястры.

Таленавіты разбяр па дрэву М. Івінскі ў барэльефе «Пад сцягам Леніна да перамогі камунізма» перадаў веліч ленінскіх ідэй. Добрыя работы з дрэва А. Міхеенкі (Полацк) «Танец», «Хлопчык», «Лебедзь, рак і шчупак».

Увагу наведвальнікаў прыцягвае скульптурная кампазіцыя са сталі віцебскага рабочага В. Ганчарука «Вакол Зямлі».

У параўнанні з мінулымі гадамі, сёлетняя выстаўка з'яўляецца яркім доказам узросшага майстэрства народных умельцаў. Хочацца пажадаць, каб лепшыя творы самадзейных мастакоў трапілі ў абласны краязнаўчы музей для экспазіцыі. Іншыя работы, па жаданню іх аўтараў, маглі б быць прынесены ў дар калгасным музеям. Такая традыцыя была пачата раней абласным Домам народнай творчасці і мастацкімі майстэрнямі. Чаму б не прадаўжаць яе і цяпер?

**Ю. ДОКТАРАЎ,**
мастак.

Віцебск.

## Беларускія мастакі рапартуюць



Сяброўкі. Скульптура А. ЗАСПІЦКАГА

# ШЭСЦЬ АМАТАРСКІХ ФІЛЬМАЎ

На экраны клубаў рэспублікі выйшаў фільм «Новая тэхніка на Беларускай чыгунцы».

Гэта — шосты фільм, выпушчаны калектывам студыі аматараў Дома тэхнікі Беларускай чыгункі. У ім расказваецца пра механізацыю вытворчых працэсаў і ўкараненне новай тэхнікі на чыгунцы.

Цяпер студыйцы Дома тэхнікі працуюць над стварэннем кінанарыса аб творчасці рацыяналізатараў і вынаходцаў. Новы фільм выйдзе на экраны да дня адкрыцця XXII з'езда КПСС.

# КАНЦЭПЦЫЯ, ЯКАЯ ВЫКЛІКАЕ ПЯРЭЧАННІ

«Новая зямля» — адзін з найбольш значных твораў Якуба Коласа і ўсёй беларускай літаратуры, і таму яна прыцягвае да сябе такую вялікую ўвагу даследчыкаў. У апошнія гады дасягнуты значныя поспехі ў вывучэнні паэмы, але зроблена яшчэ далёка не ўсё, што можна і трэба было б.

У плане даследавання паэмы значную цікавасць выклікае артыкул Міхася Мушынскага «З творчай гісторыі «Новай зямлі», змешчаны ў часопісе «Полымя» (№ 6 за 1961 г.). Аўтар артыкула робіць спробу вырашыць пытанне аб выспяванні задумы і жанравым станаўленні паэмы. Ён сабраў багаты фактычны матэрыял, супаставіў розныя рэдакцыі твора, зрабіў адпаведныя вывады і стварыў сваю канцэпцыю. Аднак сама канцэпцыя выклікае сур'ёзныя пярэчанні. У сваёй аснове яна — памылковая.

У артыкуле М. Мушынскага чытаем:

«Тое, што пазней стала «першым беларускім вершаваным раманам», спачатку было хутчэй вершаваным апавяданнем, якое мела загаловак «Як дзядзька ездзіў у Вільню і што ён там бачыў» (сакавік—май 1911 г.).

«Услед за апавяданнем «Як дзядзька ездзіў у Вільню...»... у тым жа 1911 годзе быў напісаны другі раздзел («Раніца ў нядзельку», 7 чэрвеня), затым першы раздзел («Леснікова пасада», 22 чэрвеня—3 ліпеня), потым восьмы («Смерць ляснічага», 1—10 жніўня), шосты («Каля зямлянкі», 15 жніўня), сёмы («Дзядзька-кухар», 26 жніўня), пяты («Пярэбары», мае дату: 1911 год; надрукаваны з адзнакай: «Мінскі астрог»). Трэці раздзел («За сталом») быў напісаны пасля выхаду з астрогу (10—20 снежня)».

«Характэрнай асаблівасцю раздзелаў, напісаных у турме, у прыватнасці, першых па часу напісання, з'яўляецца тое, што ў іх няма выразных адзнак тэмы зямлі».

**Гэтая тэма «загучала на ўвесь голас» у раздзеле «За сталом».** І ў сувязі з гэтым спецыяльна падкрэсліваецца: «...паводле дадзеных, якія да гэтага часу бытуюць у літаратурным ужытку, у турме напісаны і раздзел «За сталом»... Але гэта памылка, заснаваная на няведанні дакладных дат. Названы раздзел... Колас напісаў пасля выхаду з турмы ў снежні 1911 года».

**Вырашэнне пытання аб тым,** калі ўсё ж такі быў напісаны раздзел «За сталом», мае прынцыпова важнае значэнне. Без гэтага мы не здолеем высветліць, якія ж задачы ставіў перад сабой аўтар, пачынаючы работу над паэмай. Гэта — ключ да разумення эвалюцыі творчага метаду Я. Коласа, бо і сапраўды ў раздзеле ўжо раскрываецца напрамак развіцця падзей у творы.

Абапіраючыся на прыведзеныя ў артыкуле факты і ў першую чаргу — на сваё вызначэнне даты напісання раздзела «За сталом», М. Мушынскі робіць памылковыя вывады і праводзіць думку, што Я. Колас прыступіў да работы над «Новай зямлёй», не маючы перад сабой ніякай выразнай мэты. Пісьменнік быццам толькі вырашыў апаэтызаваць сваё дзяцінства, каб упрыгожыць цяжкае астрожнае жыццё.

«Раздзелы, якія былі напісаны ўслед за апавяданнем аб дзядзькавым падарожжы... маюць адну агульную рысу, нясуць адбітак незвычайнасці абставін, у якіх яны нараджаліся... Інакш кажучы, **вызначальным для станаўлення задумы момантам і аказалася незвычайнасць саміх умоў**, у якіх твор, кажучы словамі аўтара, нараджаўся «за мураванаю сцяною ў няволі жудаснай **астрога», Малюнкі мінулага разганялі смутак і тугу шэрага і нуднага існавання ў астрозе»** (падкрэслена мною.— Ул. К.).

Аўтар артыкула спрабуе пераканаць чытача, што Якуб Колас, будучы пісьменнікам-рэалістам, вядомым далёка за межамі Беларусі, працаваў над стварэннем буйнага паэтычнага твора толькі для таго, каб «разагнаць» «смутак і тугу шэрага і нуднага існавання ў астрозе». Але гэта гучыць, па меншай меры, неабгрунтавана.

М. Мушынскі так катэгарычна сцвярджае, што III раздзел («За сталом») быў напісан «апошнім з усіх дарэвалюцыйных раздзелаў (г. зн. адзінаццатым па ліку)» на той падставе, што гэты раздзел быў апублікаваны ў газеце «Наша ніва» (1913 г., № 1) ад 4 студзеня з прыпіскай: **«Мінскі астрог», 10—20 снежня 1911 г.»**, Аднак мы ведаем, што Якуб Колас выйшаў з турмы 15 верасня 1911 г. Такім чынам, **адна частка прыпіскі з'яўляецца памылковай** (прытым не абавязкова першая!). Раздзел напісан або ў Мінскім астрозе, не пазней 15 верасня, або 10—20 снежня, калі паэт жыў у Лунінцы, у свайго таварыша В. Філіповіча.

Даволі дакладны адказ на гэтае пытанне мы можам знайсці шляхам уважлівага аналізу тэксту самой паэмы і праз выкарыстанне некаторых дадатковых звестак аб жыцці і дзейнасці самога пісьменніка.

Якуб Колас нідзе не пісаў, што ён працягваў працу над «Новай зямлёй» пасля выхаду з астрога. Затое ж ён адзначаў у аўтабіяграфіі, што ў канцы 1911 г. працаваў над паэмай «Сымон-музыка». А калі мы пазнаёмімся з рукапісам самой паэмы, то ў канцы першай часткі «Сымона-музыкі» знойдзем дату, пастаўленую рукой самога аўтара: **22 лістапада — 21 снежня 1911 г.** Гэты факт выразна паказвае, над чым Я. Колас працаваў у снежні 1911 г.

Аналіз першай рэдакцыі паэмы «Новая зямля» дае падставу сцвярджаць, што раздзел «За сталом» быў напісаны ўслед за **раздзелам «Раніца ў нядзельку», у чэрвені 1911 г.** *) Раздзелы «Раніца ў нядзельку» (II), «За сталом» (III) і першыя 74 радкі IV раздзела («На першай гаспадарцы») аб'яднаны па зместу, па сэнсу, па стылю і ствараюць адзіны малюнак снедання ў сялянскай хаце ў святочны дзень.

Перачытваючы гэтую частку паэмы, мы не можам не звярнуць увагі на адну важную акалічнасць. Сцэна снедання дала аўтару магчымасць пачаць свой твор, ці больш дакладна — разгортванне падзей у паэме, з самага істотнага, з раскрыцця яе канфліктнай асновы і вызначэння галоўнага напрамку дзейнасці героя. II, III і частка IV раздзелаў непарыўна звязаны паміж сабой і тым, што ў іх паслядоўна рас-

*) Якуб Колас працаваў над паэмай «Новая зямля» вельмі напружана з сакавіка прынамсі да канца жніўня 1911 г. Пакуль што яшчэ не ўстаноўлены дакладныя даты напісання раздзелаў «На першай гаспадарцы», «Пярэбары» і частка раздзела «Дарэктар». У зборніку «Якуб Колас у літаратурнай крытыцы» (Мінск, 1926 г., стар. 30) паведамляецца, са спасылкай на пісьменніка, што гэтыя раздзелы (у тым ліку «На першай гаспадарцы» і часткова «Дарэктар», якія нідзе не друкаваліся да выхаду ў свет паэмы ) таксама напісаны ў турме. Да гэтага часу мы яшчэ не ведаем, чым Я. Колас быў заняты з 3 ліпеня да 1 жніўня і з 26 жніўня да 15 верасня. Такім чынам, указаныя раздзелы і былі напісаны ў гэтых прамежках часу.

## З кінакамерай па рэспубліцы

Мінская кінастудыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў выпусціла на экраны гарадскіх кінатэатраў і сельскіх клубаў кіначасопіс «Савецкая Беларусь» № 26. Першы сюжэт часопіса прысвечан пачатку навучальнага года ў школах рэспублікі.

Сюжэт «Голас сумлення» расказвае аб тым, як горача ўхваляюць савецкія людзі прынятыя партыяй і ўрадам меры па ўмацаванню абараназдольнасці нашай Радзімы.

Далей гледачы даведаюцца пра тое, што ў грамадскім канструктарскім бюро віцебскага трэста пад кіраўніцтвам інжынера І. Камолава распрацаван індустрыяльны метад узвядзення кароўнікаў, які дазваляе значна знізіць сабекошт будаўніцтва.

Не без цікавасці будуць прагледжаны кінакадры аб Гомельскім заводзе вымяральных прыбораў, аб новым прафілактычным санаторыі мінскіх трактаразаводцаў.

У заключэнне кіначасопіса гледачы ўбачаць міжнародную сустрэчу па футболу паміж ісландскай камандай «Фрам» і мінскай «Беларусь», а таксама пазнаёмяцца з асобнымі нумарамі з заключнага канцэрта ансамбля песні і танца Бірмы, які з поспехам гастраляваў у сталіцы нашай рэспублікі.

# КУРСЫ ПАВЫШЭННЯ КВАЛІФІКАЦЫІ РАБОТНІКАЎ КУЛЬТУРЫ

Пастаянна дзеючыя курсы павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры і падрыхтоўкі кіраўнікоў калектываў мастацкай самадзейнасці створаны пры Міністэрстве культуры БССР.

Пачаліся заняткі на аддзяленнях кіраўнікоў харавых, драматычных і танцавальных калектываў. На кожным з іх займаецца па сто чалавек. Курсанты адабраны з ліку лепшых удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Крыху пазней адкрыецца аддзяленне для павышэння кваліфікацыі работнікаў аддзелаў культуры, дырэктараў і загадчыкаў гарадскіх і сельскіх дамоў культуры, клубаў і бібліятэчных работнікаў.

На аддзяленнях падрыхтоўкі кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці ўстаноўлен дзесяцімесячны тэрмін заняткаў. Курсанты пабываюць на рэпетыцыях спектакляў тэатраў і іншых мастацкіх калектываў, пройдуць практыку.

# ТВОРЧЫЯ СУСТРЭЧЫ

З творчымі справаздачамі ў гонар XXII з'езда КПСС ў Гродна выехала брыгада артыстаў Беларускага дзяржаўнага ордэна Леніна Вялікага тэатра оперы і балета. У разнастайнай і цікавай канцэртнай праграме прымаюць удзел Л. Бражнік, Н. Давыдзенка, Л. Галушкіна, А. Шаўкавец, І. Шчацінін, І. Папоў, Н. Ражнова, С. Гулевіч, Б. Нікольскі і другія.

Акрамя выступленняў ў Гродна канцэртная брыгада дасць некалькі канцэртаў у Брэсце, раённых цэнтрах, калгасах і саўгасах Брэсцкай вобласці.

Саюз кампазітараў БССР наладзіў творчую сустрэчу з пагранічнікамі. На сустрэчы выступілі кампазітары Я. Цікоцкі, М. Аладаў, С. Аксакаў, І. Ронькін, Э. Тырманд, Ю. Семеняка.

Т. Пастуніна, Т. Шымко, В. Прышчапёнак, Д. Зубрыч, В. Чарнабаеў, Ю. Матраеў выканалі рамансы і песні беларускіх кампазітараў, арыі і песні з опер «Дзяўчына з Палесся», «Міхась Падгорны», «Калючая ружа».

Упершыню ў канцэрце прагучалі новыя песні беларускіх кампазітараў аб пагранічніках — «Лірычная пагранічная» Я. Дзягцярыка, «Заўсёды ў дазоры» Р. Бутвілоўскага, «Мінск, мой любімы горад» Э. Тырманд.

Майстры беларускага харэаграфічнага мастацтва Л. Ражанава, Н. Давыдзенка, В. Міронаў, М. Шэхаў выканалі ўрыўкі з беларускіх балетаў «Князь-возера» В. Залатарова і «Падстаўная нявеста» Г. Вагнера.

За актыўны ўдзел у культурным шэфстве над пагранічнікамі камандаванне пагранвойск узнагародзіла актывістаў шэфскай работы ганаровымі граматамі і памятнымі падарункамі.

Я. Цікоцкі і Ю. Семяняка прынялі ўдзел у творчай сустрэчы з навучэнцамі Мінскага сувораўскага вучылішча. Адказны сакратар саюза кампазітараў музыказнавец І. Нісневіч расказаў юным слухачам аб развіцці беларускай савецкай музыкі.

У заключэнне сустрэчы адбыўся канцэрт з твораў Я. Цікоцкага і Ю. Семянякі.

